Сяргей Дарожны

# Абраныя вершы



Бел2
Д20

*Сяргей Дарожны (Сяргей Міхайлавіч Серада) нарадзіўся ў 1909 годзе. Першыя яго вершы з'явіліся ў друку ў 1925 годзе. У 1926 годзе ён ў сааўтарстве з І. Плаўнікам выдаў кніжку вершаў «Звон вясны». У 1932 годзе выйшаў зборнік паэзіі С. Дарожнага «Пракосы на памяць». Яго творы ў той час часта з'яўляліся на старонках беларускіх газет і часопісаў.*

*Памёр С. Дарожны ў 1938 годзе.*

*У гэтай кніжцы сабрана лепшае з напісанага паэтам за нядоўгі перыяд яго літаратурнай творчасці.*

**Складальнік**
**Максім Лужанін**

7-4-3
84-66М

## Я мінуўшчыны не шкадую

(Урывак)

Сціхлі песні, і вечар кволы
Цемнатою завіс у галлі.
Вецер зыбіць дрымотны волуй
На азёры, што месяц праліў.

Сосны пахам смаловым набраклі,
І паўзуць туманы ад ракі.
Многа бед, ой, гракі панакракалі,
І паснулі вятры ля ракіт.

Беларусь мая, слёзаў злітак!
Мы ўцяклі ад цябе так далёка,
Дзе, казалі, не будзеш біты
І жыццё будзе надта лёгкім.

. . . . . . . . . . . . . . .

А цяпер, калі дні астылі
І пажар той вайны аціх,

Зноў я тут, у краіне мілай,
Чую шэпты вятроў у трысці.

Быў забітым ты, край мой родны,
Што крывёю палі імжыў,
Але веру — над Вільняй і Гродняй
Шчэ штандар волі будзе кружыць!

Што было, больш таго не будзе:
Яно быллём у палях парасло.
Сэрца пранікам б'е у грудзі,
Але песням не хопіць слоў.

Я мінуўшчыны не шкадую:
Не збіраць вёсцы ягады слёз.
Чую — ветры ў даліну худую
Сыплюць жоўтыя песні бяроз.

Тыя песні восень рыжая
Голлем звесіла ў самыя пяты.
Беларусь больш не стане крыжам
Пры дарозе з хрыстом распятым!

Вось таму і радасць спелая
З сінім агнём уваччу,
Ад таго і песні смелыя
Сёння ў полі аратага чуць!

Ўсё прайшло, й галавой кучаравай
Мне ўсміхаецца кожны дзень!
— Беларусь камсамольскай аравай,
Маладзіцай з сярпочкам ідзе.

1925

## Рытмы вясковай працы

(Урывак)

Толькі сонца
Раніцы жмені
Пырсне ў косы
Бярозавых вех,
Згоняць ветры
Чупрынай ячменнай
Ліпкі сон саламяных стрэх.

. . . . . . . . . . . .

Вёска родная,
Вёска мілая,
Не магу я цябе не любіць...

. . . . . . . . . . . . . .

Ой, пара,
Пара ўжо віламі
Паскідаць старыну у нябыт!
Нездарма ж
Трубы фабрык не белым

Дымам мажуць блакітнае неба,—
Горад хоча,
Каб вёска мела
Сукно і дасыта хлеба.
Каб свяціла электрыкай яркай,
Уздыхаюць машыны-асілкі.
Сніцца ім, што ляскоча жняярка
І што косіць стальная касілка...
Дзень за днём
Вараныя коні
Табунамі бягуць у нябыт...

. . . . . . . . . . .

Будзе верыць
Машыннаму звону,
Будзе вёска машыну любіць.

1926

## Зіма

Зіма цяпер і снегу па калені,
Ні сцежак, ні дарог няма.
Цярусяцца і падаюць сняжынкі памаленьку.
Зіма, зіма.

Ў палях снягоў сярэбраная ціша
Асела белаю і звонкай сівізной.
Ізноўку думы галаву маю калышуць,
Ізноў, ізноў.

Не спіцца мне, не спіцца мне, і часта.
Палае снег барвовістым агнём...
Не ведаю чаго, на радасць ці няшчасце,
Злятаецца сюды з паўночы вараннё.

На белы снег садзяцца і садзяцца,
Крыламі веючы над полем цемнату...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гады, гады, міне ўжо скора дваццаць,
А дні сняжынкамі лятуць, лятуць.

●

Не помню я, даўно было ці не.
Такою ж песняю ці мо зусім другою
Я называў яе калісьці на вясне —
Дзяўчынай любаю і дарагою.
Не помніцца цяпер, даўно было ці не.

Тады над полем чырванелі далі,
І вецер па-інакшаму тады зусім звінеў,
Як быццам нехта на сярэбраных цымбалах
Пяяў нясконченыя песні мне.
Тады над полем чырванелі далі.

Цяпер зіма і снегу па калені,
Ні сцежак, ні дарог няма.
Цярусяцца і падаюць сняжынкі памаленьку,
І далі тонуць у сівы туман.
Цяпер зіма і снегу па калені.

Сяджу і думаю адзін, як месяц,
Нікога не пакрыўдзіўшы, далёкіх любых клічу...
Ласкава шастаюць завеі снежнай песняй,
Ласкава шастаюць у лозах ніцых.
Сяджу і думаю адзін, як месяц.

А за акном глыбокія снягі, снягі.
Хто сцежку першую пратопча між дуброў,
Хто першы прыйдзе, радасны і дарагі,
Над вёскаю развесіць струны правадоў?!
А за акном глыбокія снягі, снягі.

1927

## Веянь

**(Урывак)**

●

І чым болей шумуе вецер
І крыжуюцца сцежкі ля хвой,
Я іду весялейшы у свеце,
Ведучы сцежкі долам-травой.

Можа, хто іх калі палічыць,
Можа, ветры пяском занясуць,
А пакуль буду скрозь навальнічыць
І пажоўклую нішчыць красу.

●

Зацвітуць і асыплюцца ружы,
Вецер долам лісты замяце,
Толькі я, мой далёкі дружа,
Буду болей яшчэ залацець.

Бо хачу не пялёсткамі падаць,
Не схіляцца, губляючы ліст,

А цвісці, каб званіла радасць
І калоссе аж нікла зямлі.

●

Мне ўсяго толькі дваццаць гадоў,
А здаецца вялікая ношка,
Бо не мала таптаў я шляхоў
І губіў на зямлі валошак.

. . . . . . . . . . . . . .

І чым больш адцвітае дуброва,
Тым ярчэй мае вочы гарадь,
Тым званчэй на лісты каляровасць
Рассыпае асенняя рань.

●

Хай лістамі паляны варожаць
І заўсёды шуміць вербалоз,
Я іду стрэць дзяўчыну прыгожую
З навальніцаю русых валос.

Я іду расказаць ёй, далёкай,
Што у сэрцы маім вясна,
Хоць і восень кілімы паблёклыя
Усцілае на сцежках нам.

1927

## Белымі пялёсткамі

Белымі пялёсткамі параслі нізіны,
Белымі снягамі
Серабрыцца гаць.
Белая маўклівасць села на каліны,
Села берагамі
Зацвітаць.

Словы завіліся радасцю нязнанай.
Стану каля грубы
У такую золь.
І здаецца проста ці ільсніцца снамі —
Ласкавыя губы
І каса, як смоль...

За акном каліны, за акном таполі
І зара над гаем
З зараніц.
А цяпер каліны хіляцца у полі
З белымі снягамі
Ніц.

Пасінела неба раніцой над гаем,
Пасінела рана —
Скрозь.
А сягоння любая у мяне другая,
Ў залатым убранні,
Ля бяроз.

1927

## Рыбакі

Вецер стамлёны прылёг на траве,
Месяц блішчыць над ракою.
Мрок задуменна на бераг плыве
Ў цьмяных адценнях спакою.

У соннай вадзе задрамалі чаўны,
Вербы схіліліся ў ценях.
Срэбныя сеці раскінулі сны
Між трыснікоў і каменняў.

Спяць берагі у начной цішыні,
Завадзі ў месячным вецці...
Там рыбакі з ледзяной глыбіні
Цягнуць стамлёныя сеці.

Там устрывожанай хваляй вада
Б'ецца ў нахмураны бераг

І, адплываючы ў цьмяную даль,
Сполахам крыецца шэрым.

Ціха і моўчкі ідуць рыбакі,
Месяц люстэркам свеціць:
Што прынясуць на ўзбярэжжа ракі
З завадзей цяжкія сеці?

Думкі, як хвалі, у звыклай хадзе.
Повень дакурвае люльку,
І туманы, нібы дым на вадзе,
Чэзнуць ў далёкім затулку.

Ноч. У надзеях нацяты канат
К берагу бліжыць удачу:
Свежая рыба на жоўты пакат,
Срэбрам зіяючы, скача.

Дальнія хвалі вітаюць пачын.
Раніца сеці збірае.
Недзе у досвітку певень крычыць,
Месяц блішчыць за гарамі.

Човен яго ля сінеючых вод
Дзесьці бярэцца на прывязь.
Днее. І ноч пакідае усход
Ў ценях на чорным абрыве.

І, як заўсёды, пад звон асакі
Дзень усміхнецца на рэчцы —
Ў чорных чаўнах адплывуць рыбакі
К дальнім кастрам
Абагрэцца.

1928

## Пагранічнікі

Два слупы,
Невялічкая сцежка,
Дзве сасны і расцягнуты дрот.
Дзён мінулых нязбытая рэшта
Скрыжавалася тут ля дарог.

Тут мяжа,
Тут бяссонная варта,
Там варожыя ходзяць пасты,
Там вятры між дарог вілаватых
Засыпаюць снягамі пустыр.

Толькі месяц
Між хвоек высокіх,
Нібы коршак, віецца ў цішы...
І чутны асцярожныя крокі
На сярэбраным снезе мяжы.

. . . . . . . . . . . . .

Ноч заўсёды прыносіць трывогу,—
Кожны куст, як варожая здань.
Тут сышліся крывыя дарогі,
І ў снягах прытаілася даль.

Там, за слупам,
Варожыя сілы
Пільна сочаць гусцеючы змрок.
Сёння тут, а назаўтра — ў магіле
За няправільна ступлены крок.

І напружанасць
Кожнай хвіліны
Пагранічніку радуе кроў —
Гэта дні працы мірнай краіны
І вясельных напеваў дуброў.

Дзесьці там, за аснежаным полем,
Вёскі родныя паляць агні...
І пяюць штось сасонкі такое
Пра вялікія дальнія дні.

Там будуюць вялікае нешта,
Кожны дзень сцеле новы абрус...
А думкі, а думкі ў дэпешах
Вецер золкі нясе ў Беларусь.

І мацнеюць
Напорныя крокі,

Снег сярэбраны зносяць вятры.
Ходзіць варта бяссонная ў змроку
Пад марозны рассыпаны рып.

А у ранак, пад шэпат сасонак,
Як заўсёды, у звычай стары —
Пераклікнуцца пеўні спрасонак
Па-зямляцку пагаварыць.

1928

• • •

Ніяк за імі не паспець —
Такія дні ў натоўпе гончым.
Ужо сады губляюць медзь
І клёны раздаюць чырвонцы.

Здаецца, позняя пара,
Сяджу, атулены у поцем,
А за акном гарыць зара
Агнём рабінавым на плоце.

І нездарма вароны дзесь
У сад зляцеліся на сходку:
Між дрэў паволі нечы цень
Блукае восеньскай паходкай.

І, можа б, так было дармо,
Каб я не жыў у гэтай хаце,
Дзе ходзіць вецер між дамоў
У адвячоркавым халаце.

Але ці згодзіш на адно
Усё, што стане па-за намі...
Стучыцца восень у акно
Заледзянелымі рукамі.

І я, аддаўшы ноч пяру,
Чакаю нечаканай стрэчы,
Каб заўтра ў гэткую ж пару
Камусьці горача пярэчыць.

А покуль думы цягнуць нас,
А покуль з рыфмаю няўвязка —
Нясе ля весніц жоўты вяз
Гадоў замуленую вязку.

Але я знаю, хопіць сіл,
Мяне вядзе мая стараннасць.

. . . . . . . . . . . . .

Вароны каркаюць з асін...
Напэўна ранак!

1928

## Краіне

...Добры дзень, краіна дарагая,
Добры дзень, азёры і лясы!
Вам сягоннячы па ўсіх курганах
Распусціла сонца валасы.

Хай заўсёды на палях тваіх
Каласы цяжэй схіляюцца дадолу;
І каб людзі гэтыя для тых
Не былі чужымі аніколі.

Каб і Нёман сіні, Вісла і Нява
Разліліся ў сінюю паводку,
Для адной камуны хваляваць
Даль бязмежную увонках.

Ад таго я ў радасным убранні,
Аб усім забыўшыся, пяю
Пра вясну, краіну і змаганне,
Пра жыццё і маладосць сваю.

Ды смяяўся я і плакаў часта
(Весялосць была такая ад сахі),
Каб цяпер шукаць такое шчасце,
Дзе усе сыходзяцца шляхі.

1928

## На пляжы

Ясна і горача,
Хоць ты прыляж,
Мора ў сонечным грыме.
Раніца.
Восем.
Іду на пляж
(Такое месца ў Крыме).

Бераг зацішны,
Каменьчыкі ўсё —
Цэлы узморак закулі.
Ляжаш і чуеш,
Нібы праз сон,—
Круціцца земная куля!

Вочы адчыніш,
Наколькі відаць,
Аж да Турэччыны,
Горда

Плешча зялёным адлівам вада.
Весела.
Танна.
І добра!

Думалі, нам гэта? Дзе?
Міражы!
Крым і ўсё, што прыгожа.
Але хто век свой
За працай пражыў,
Ён на курорце быць
Можа!

Прыйдзе на пляж гэта
Ясная мосць,—
Думкі і клопаты ў мора!
Да вас падыходзяць:
— Жаданы госць,
Скіньце, даволі аборак!

І пакрысе ападае міраж,—
Я на зямлі ці на небе,
Тут вам і сонца,
І мора,
І пляж,
Словам, усё, што трэба.

Носяцца чайкі
У гомане хваль,

Сонца —
Загарам на целе...
Поруч са мною татарын-каваль,
Разам ляжым
І пацеем!

Цела распалена,
Над галавой
Сонца палае, як горан.
Мой жа татарын
Штось маша рукой,
Пальцам абводзіць узморак.

Я па-татарску
Ні бэ, ні мэ,
Толькі вачыма й гаворым,
Нам і без слоў
Зразумела не менш
Музыка Чорнага мора.

Там, на адхоне,
У засціле хмар
Горы.
На гора,
На жаль мой,
Колькі жыло там гаротных татар
Ў песнях нудлівых,
Як псальмы.

Там бы шакалам жыццё
Ды арлам,
Скалы, за скаламі стромы,
Толькі й было, што зямлі
За сялом
На пахаванне старому...

Я паглядаю на мора,
І мне
Мора здаецца ўзлаваным,
Шуму выносіць на бераг
І гнеў,
Сінімі хвалямі ўсланы.

Скора дванаццаць.
Апалены Крым
Жоўтыя горы сутуліць.

. . . . . . . . . . .

Слаўна!
Па-нашаму!
Ў сонечны дым
Круціцца земная куля!

Сімеіз, 1929

## Веснавое

Бязмежна рады я сягоння,
Здаюся ў песенны палон...
Кудысьці коні мчацца, коні
Вясенніх і ружовых дзён.

Мінулі золкія завеі,
І клён забыты ля акна,
Ў лятунках ранніх ружавее
Там, за фіранкаю, вясна.

Там, у вясновым шуме саду,
Зімовыя забыты сны,
Там кожны клён бязмерна рады,
Адчуўшы подыхі вясны.

Такая слаўная пагода,
Лятункаў мітусіцца рой...
Я паланён душы разводдзем,
Палескай роднаю вясной.

. . . . . . . . . . .

З такога цеснага пакоя
Душа ірвецца ўдалячынь,
Туды, дзе ў бэзавым спакоі
Бярозы ходзяць паначы.

І я схіляюся ў знямозе,
Бо гэта ж толькі сніцца мне:
Зіму апошнія марозы
Дарысавалі на акне.

1929

## Дадому

Як стаміўся і як зморан!
Адпачыць бы ля ракі.
На сінеючых азёрах
Запяваюць трыснікі.

Вее сінь туманам свежым,
Стома ўлеглася ля ног...
Пескавыя узбярэжжы
Мне прыпомніліся зноў.

Да сяла ўжо недалёка,
Лёгкі дым ляціць з садоў,
Млын стары ўсё так жа бокам
Пахіліўся над вадой.

Дзеравяная званіца
Ды разбітыя званы
(Ім пара ўжо разваліцца)
Стогнуць нудна ў цішыні.

Вось і нашыя вароты.
Адчыняю. Як даўно!
З брэхам бобік наш дваровы
Зноўку лашчыцца ля ног.

Вось ён, добры мой прытулак!
Колькі год і колькі зім...
— Добры дзень, мая матуля!
Гэта я... Сяргей, твой сын.

— Ты, сыночак?..— Дагарае
Колер макавы зары,
І ўжо з радасці старая
Больш не можа гаварыць.

. . . . . . . . . . . .

І звычайная бяседа
Палілася за сталом:
— Заўтра трэба йсці на сена,
А сягоння жыта жнём.

Ураджай хоць невялікі,
Але ўсё ж, ты знаеш сам...
І ад ветру ў садзе ліпы
Галаву схілялі нам.

. . . . . . . . . . . .

А назаўтра, шчэ паляны
Не ссыпалі росных слёз,
Пабудзілі мяне рана:
— Ў добры час,
На сенакос.

1929

## У трынаццаты рэйс

Гэтай раніцай клёны
Ўсыпалі нам шлях,
Дні віталі краіну сцягамі.
У трынаццаты рэйс адплывала зямля,
У трынаццаты рэйс
З журавамі.

Гэтай раніцай плошчы
Грымелі: — Паўстань!..
Узрасталі надзей рыштаванні,
І выпростваўся велічы наскае стан
Над краінай ружовым
Світаннем.

Ў найвялікшым паходзе
Дрыжэла зямля
Пад напеўнасць заводаў і фабрык.
Будаваць, будаваць! — Мы заносілі ў план
Наступлення
Вялікіх армій.

Хай разносіць
І кідае вецер лісты,
Перашкоды шляхоў нам не засцяць!
Палымнеюць агні
На вялікі уздым
На франтах пераможнае працы.

Кожны крок,
Кожны поступ у гэтай хадзе
Скалане навальніцай планету.
Нездарма кожны дзень
Высіць волаты сцен
Над адзінай Краінай Саветаў.

Грайце маршы, аркестры,
Ў наступнага дні!..
Хай гавораць нацятыя струны!
Прыйдзе час, дзеці клікнуць:
І ты будаўнік
Найвялікшае ў свеце Камуны!

1929

## За вучобай

Дожджык расцягвае тонкія ніткі,
Роніць іскрыстыя кроплі на шкле.
Жоўты алоўак, пакрэмзаны сшытак
Перада мною ляглі на стале.

Як адзінота на спушчаным трапе,
Я сярод даўніх эпох уначы...
Мне дазваляецца мець сабе лямпу
Роўна у трыццаць і дзве свячы.

Каб у сталетніх пацёмках і пыле
Мудрасці даўняе сівых вякоў
Гэтыя трыццаць і дзве мне свяцілі
Сярод нязведаных слоў маяком.

І, як студэнту-стыпендыяту,
Тэмай адзначана мэта мая:
Лірыкай сумных тэорый і датаў
Мне захапіцца і
Апяяць.

Мне дазваляецца быць супакойным
Перад эскадрамі літар і слоў,
Мне дазваляецца пеша і конна
Ездзіць па кнігах забытых вякоў.

Але ўспаміны... з імі ці зладзіш?..
Восень стаіць між апаленых дрэў,
Быццам паяц на бязлюднай эстрадзе
Сярод запыленых вуліц і стрэх.

Перада мной узнімаюцца сцены
Слаўнай Элады
Байніцы эпох,
Вобразы Троі, асад Карфагена
Ў звоне шчытоў, у прызыве трывог.

Тупаюць коні,
Ломяцца дзіды,
Трупы на полі ляжаць, як снапы...
Стогнуць кіфары аб тых, што не прыйдуць,
Песнямі славячы сумную быль.

Скора дванаццаць. На шыбіне вецер
Квола здувае слязінкі вады.
Троя асаджана...
Троя здаецца...
Літараў войска ахутвае дым.

Морак радзее за вокнамі. Нават
Дожджык сціхае, і гасне святло.

Я пераможаны, я засынаю,
Голаў схіліўшы над самым сталом.

Побач на ложку заснуў мой таварыш,
Знаю, і ён, мой вясёлы зямляк,
Сёння Парыж аддае камунарам
І галасуе за смерць караля.

Ён не пакіне сваёй барыкады
Ў час, калі возьмуць апошні рэдут.
Гэта відно: ён Камуне не здрадзіць,
Ён не надзене нявольніцкіх пут.

Тонкай струною нацягнены провад
Дзесьці далёка урэзаўся ў сінь...
Заўтра прафесар, нахмурыўшы бровы,
Скажа: — Залічана,
Добра зусім!

1929

## Новы дом

Цэлы дзень вазілі тачкі,
Падавалі новы цёс,
Толькі вецер пеў заплачкі
На стары жабрацкі лёс.

Цэлы дзень насілі цэглу,
Будавалі вышай дом!
І стамлёна цені леглі
На зямлю сваім чалом.

Горда ўзвысіліся аркі
Над стыхіяю зямлі...
Новы дом пад сонцам яркім
Над руінамі ўзвялі.

Вокны к зорам высяць вочы,
Лёг на выступы граніт.
Нездарма тут пот рабочых
З рупнай працаю так зліт.

. . . . . . . . . . .

І цяпер, куды ні глянеш,
Будаўнічы стук і гром,
Пахне цэментам ў тумане
І адноўленай зарой...

1929

## Паэт

На снежную плошчу,
На вуліцы ўсе,
З ношкаю дум і імкненняў,
Морак зялёны плыве пакрысе,
Морак такі летуценны.

Ахоплены ніткамі
Тонкіх дратоў,
Ён раптам гусцее на месцы...
І я адчуваю, як б'ецца кроў,
Творчая кроў у сэрцы!

Тады я складаю паэмы свае
Захоплена і настойна,
Дзе кожнае слова і рыфма пяе
Нацятай струною настрояў.

. . . . . . . . . . . . .

Мне хочацца песню
Сваю закаваць

У строі бліскучай магуты,
Мне хочацца ў песні сваёй збудаваць
Вялікі завод і магутны.

І я укладаю
Разлічаны план,
Прыгожыя ладжу рыштункі.
Яму вызначаю я месца і пляц
І цэглу найлепшых гатункаў.

І вось узрастае
Сцяна за сцяной,
Дзівосныя звоняць машыны...
І радасна так паглядае ў акно
Кавалачак неба сіні.

1930

## Суботнік

Дзень прыйшоў, аканіцы адкрыў,
Паглядзеў: — Трэба ж гэтак спазніцца!
Пагасілі даўно ліхтары,
Пазаметвалі нават святліцы.
...Дужым ён паўстае і расце,
Тчэ дратоў індустрыйныя кросны
Там, дзе буйна хвалюецца стэп,
Дзе гамоняць бяссонныя сосны.
Трэба так — і адданасць расце,
Звоняць волаты новае сілы
Там, дзе буйна хвалюецца стэп,
Дзе пад восень туман гэткі сіні.
Кожны дзень наш, як тысяча год,
У громе, стукаце — чуеш, планета?!
Сёння мы абвяшчаем паход —
Найвялікшыя здзейсніць заветы.

Мазыршчына, 1930

## І там, дзе балоты...

Словаў шукаў,
І ніводнага гэткага,
Каб у адным —
Шырыня нашых дзей!
Кволая лірыка,
Таварышы паэты,
Прыстала ў самай напружнай хадзе.

Прыстала тады,
Калі трэба на штурмы
Весці мільёны
У заўтрае нам.
Таварышы паэты! Паэзіі сурмы
Мабілізуйце,
Каб з намі яна!..

Каб пела краіна
Вясною фабрычнай,
Каб неслі энергію

Сотні балот
Ад станцый — камбінатаў
Электрычных,
У тысячы і мільёны вольт!

Яшчэ не ашчанулі
Нетры магутаю.
Вы чуеце?
Варушыцца на Мазыршчыне граніт.
Вы чуеце?
Дымяцца на Барысаўшчыне гуты,
На Бабруйшчыне торф
Пачынае гаманіць!

Гэта Беларусь —
Балотамі закутая,
Тая, што білася, як рыба аб лёд,
Тая, дзе жыць — азначала пакутаваць,
Сягоння рушыцца
І паднімае чало.

І там, дзе мяжа векавое маруды
Палын гадавала ды чортавы мох,—
Шуміць залацістае жыта
Па грудзі —
Грунтоўнейшы доказ
Людскіх перамог!

1930

## На ўдарных франтах

Старонкамі новых
Напісаных кніг
Пра дні
На руінах старога
Цябе я адзначу
У вершах маіх,
Мая баявая эпоха!

Нам трэба змагацца,
Змагацца як след
У класавых бойках на фронце —
За вугаль,
За нафту,
За свежы хлеб,
За кожны гектар на балоце!

Гудуць правады,
Гудуць правады,
Сурова гамоняць турбіны:

— Мы са сцюдзёнай
Дняпроўскай вады
Сонца дамо краіне!

. . . . . . . . .

Гудуць правады,
Гудуць правады,
Распалены хмурыя домны:
— Мы выплавім тысячы тон
Руды,
Патрэбнай на
Перабудову!

І чуецца грукат
Ударных рот:
...«Самі пралажым дарогу!»
— Гэй, прыналяжам,
На поўны ход! —
...«Дружна, таварышы, ў ногу!»

І там, дзе калісьці
Адны балаты,
Вада ды гушчар непрабудны,—
Магутным аркестрам
Гудуць правады,
Гудуць правады Асінбуда.

За імі
Далёка хвалюецца Сож,

Шумуюць няспынныя воды,
І высіцца Гомель —
Каменны ўздоўж —
Асілкамі дымных заводаў.

Працуе краіна,
Гудуць правады,
На фронце ударным
Атакі —
Бабруйшчына б'ецца
За творчы уздым,
Барысаў — за добрую
Якасць!

Ля кожнай машыны
Нябачаны спрыт,
У кожнага пэўны свой
Клопат:
Мазыршчына ломіць шэры граніт,
Бабруйшчына сушыць балоты!

Адзіная мэта,
Адзіны дэвіз —
Змагацца, змагацца, змагацца,
Каб з кожным ударам
Бліжэй камунізм,
Народжаны ў бойках
І працы!

Ты чуеш,
Ніводнага кроку ў хвасце,
Мускул і сэрца
На варту!
У домнах, рэтортах,
Капальнях расце
Наша сапраўдная вартасць!

1930

## Палессе

Досыць рамантыкі,
Клопаты ў мора!
Згадак нікчэмную морасць
Далоў!..
Зноў нада мною палескія зоры,
Палескія пушчы,
Палескі аблог.

Адсюль пачынаецца ўсё,
І, канечне,
Тысячы га непраходных балот,
І песня мая,
Разгарнуўшая плечы
Ды ўзятая рэвалюцыяй
На прыход!

●

Колісь хмызняк
Ды балота гнілое,

Ды па балоце
Сляпучы туман...
Смутак адзін!
Але вось за сасною —
Паводка,
Мора
Аўсяных палян!

Побач — істужкаю —
Лес і дарога,
Кружыць над небам
Буслiны ўзлёт.
Гэты пейзаж
Падмацован аблогам
Распрацаваных пустэч
І балот.

Шырач такая —
Не месціцца ў слове,
Вось яна песціцца
Ўся ў каласох!
А колісь жылі тут
З бядой напалову,
Плялі сабе лапці,
Капалі пясок.

Столькі было
Над краінаю жалю,
І столькі нуды

У краіне было,
Што толькі вятры
Ды сычы над крыжамі
Спраўлялі свой дзікі
І жудасны злёт.

І гэта, я знаю,
Было не пад сілу,
Ад гэтага краем
Хадзіла бяда.
Тут радасць, здавалася,
Песні згубіла,
Смяялася толькі
На сонцы вада.
Але ці мала
Пра гэта гучэлі,
Плакалі мала
Пад нудную гру?!
. . . . . . . . .

Халодны па лесе
Разыходзіцца шэлест,
І песня, як помста,
З дванаццаці струн!

Гэтага хопіць,
Каб выбіцца з суму,
Досыць яму парынаць
У прыцём!

На Палессі у нас
Сёння жыта красуе,
Грэчка, ячмень
З залацістым асцём!..

●

Выйдзі полем, гукні!
Адзавуцца бары,
Па далінах рассыплецца звон,
Па лясах,
Па гушчарніках дзікіх,
Дзе ходзяць звяры,
Па сыпучых пясках,
Па траве, па кустах!

А як сонца за лес
І крывёй аблііецца —
Ў сотні струн камарыная
Музыка мкне!
І плыве цішыня
Над суцішаным лесам
У суцеиях галін
Па нацятай струне.

Заўтра раніцай будуць
Парыпваць калёсы,
Будуць з поля вазіць
Калектыўны ўраджай.
Кажуць: гэтага лета

Ўрадзілася проса,
І гавораць: каб толькі
Здалелі пажаць.

●

Гэта — Палессе,
Вышэй пра якое
Стагналі жалейкі
Ў туманны навой,
Уростае ў план маіх песень
Вясною,
Вялікай вясною
Краіны маёй.

1930

## Грыміць мураваны бетон...

Носяць цэглу
І песні пяюць,
Гнуцца дошкі
Пад цяжарам ног.
Гром і стукат,
І песні плывуць
Над туманам
У сініх палёх.

Кожны справай
Вялікай занят
Над мурамі
Узведзеных сцен.
Звабна неяк
Цаглінкі звіняць,
І сіней, па-інакшаму,
Дзень.

. . . . . . . . .

Яшчэ многа
Патрэбна сіл,
Шмат імклівасці,
Рупнасці шмат,
Каб у дальніх палях
Каласы
Ураджайна шумелі
Нам.

І загэтым
З відна да відна
Так лапочуць
Калёсы машын,
І расце за сцяною
Сцяна,
Урастаючы ў зорную
Сінь.

Глянь, таварыш!
Паслухай, тут стань,—
Лепшай песні
Не зложыць ніхто,—
Як пяе гаварлівая
Сталь,
Як грыміць мураваны
Бетон!..

1930

## З паэмы «Камісар»

Як пайшла пяхота,
Конніца за ёй!
Рота за ротаю
Проста ў бой.

Цераз бор зялёны
Пад абстрэл ракі
Скачуць эскадроны,
Тупаюць палкі.

Камандзіры — ўперад
На варожы туп,
На заставы белых
Войска вядуць.

. . . . . . . . .

На штыкі — пяхота,
Конніца — ў аб'езд.

Крыюць кулямёты
Поначы на лес!

Колем, рубім ворага,
Рушым грук палкоў,
Не шкадуем пораху,
Вострых штыкоў!

Тры гадзіны з бою
Бралі кожны крок,
З дымам ды крывёю
Рушылі на ўсход.

Але шлях прабілі
Праз ліхі аблог.
Ў тупаце ды пыле
Пелі сотні ног.

Раніцаю рана
Былі на сяле,
Бінтавалі раны,
Елі смачны хлеб.

Ґаварылі: — Гэта
Ўсё, што відаць,
Хочуць Саветы
Вёскам аддаць.

Але гоняць войскі
Белыя паны,

Паляць нашы вёскі
Вольнай стараны.

Бабы, маладухі
Слухалі байцоў,
Уздыхалі глуха
Ды клялі паноў.

Частавалі шчыра
Добрых ваякоў
Хлебам, сырам,
Цёплым малаком.

І калі гусцела
Рот чырвоных шчэць,
Доўга ім глядзела
Вёска ўслед яшчэ.

А ў другой аддалі,
Там, дзе змрок палёў,
Сонца ў цень хавала
Свой чырвоны шлём.

Але йшлі калоны
З поля ноч сагнаць.
Конніца Будзённага
Рабочых і сялян!

1930

## Уступнае слова

Насіў не ў кішэні,
А тут — у грудзях,
Тры дні, як абойміну поўную.
Дужую ў голасе. Во! — ў плячах
Песню, са мною роўную.

Думалі, буду плыты ганяць
Гіблай старэчай лірыкі.
Чорта з два!
У мяне яна
Простая і без выракаў.

Ціслася слоў, было, машкара,
Лазам на вочы, сляпіцаю...
Лезла, бывала, такая мара́,
Такая мара́ — не адбіцца...

Аж да тугі, да самоты падчас,
Спытайце любога рэдактара:

— Чортаў тузін розных акрас
І аніводнага трактара.

Не па сабе гэтых песень тады
Клаліся сціплыя словы —
Там месяц сухім
Паднімаўся з вады,
І хоць бы што, галалобы...

Я накідам песень ахутаў душу
І словы прабую на сэрца...
Я тысячу песень яшчэ напішу
Пра моладасць нашую, верце.

І покуль за вокнамі ходзіць суцень,
Ляжыць ціхата па лагчынах,—
Я песню гадую, і песня расце,
Як досвіт, як сам я, магчыма.

Мне цяжка змясціцца
Ў калонцы такой,
Мне гэтае плошчы замала...

. . . . . . . . . . . . . .

Мой самы маленькі на свеце пакой
Па вушы паперай завален.

Яго я
Бяру у лірычны палон.

Хай ломіцца ў шыбіны месяц,
Мне трэба распальваць вогнішча слоў,
Каб выкаваць дужую песню.

Мне трэба яе
Дабяла распаліць,
Каб моладасць біла зарадкай...
(І гэта не проста пяром павадзіць,
Каб потым пapляскалі ў ладкі).

Не! Гэта тысячы молатаў гром,
Залп баявога наводу.
Не! Гэта песня ідзе напралом
Цераз агонь і воду.

●

Табе аддаю я, рэспубліка, ўсё,
І голас мой сонцам наліты.
Я поплеч з табою —
Крысо ў крысо —
На штурмах эпохі вялікай!

1931

## Развітанне

Как пошли наши ребята
В Красной гвардии служить...

Ал. Блок

Не глядзелі штату. Трэба? Працавалі.
Досвіту хадзілі рэзаць траўны шоўк.
Што ж, бывайце, хлопцы,
Час, і нам прыпала,
Бараніць краіну наш чарод прыйшоў.

Ты будуй, таварыш,
Падавайце цэглу,
Развінайце песень будаўнічы рой,
Каб прарыву пляма ганьбаю не легла.
Ты будуй, таварыш, моцна стой!

Не здавалі ў працы,
Не здамо і ў бойцы,
Вартаю няўтомнай станем на мяжы.
Запявайце песню, звоны-калакольцы,
Не «айчыне» едзем, не цару служыць.

Па мяжы вандруе, точыць вораг іклы,
Злыбедаю сякне чортава гайня...
Толькі нам не нова,
Да такога звыклі,
На выпадак маем стрэльбу і каня.

Налівайся, песня, ў баявой калоне,
Гайда ты, дзевяты,
Дапрызыўны год,—
На плячы вінтоўка, па баках патроны,
Першую каманду падае камрот.

Не сумуйце, хлопцы,
На старой балоне.
Перадайце любай ад байца прывет.
Не за мора ж едзем,
Стаць на абарону
Недарма нас кліча Рэўваенсавет!

1931

## Тысяча дзевяцьсот дваццаты

(Урывак)

...Тысяча дзевяцьсот дваццаты год.
У горадзе — контра, за горадам — фронт.
Стыгне апошняя кроў цягнікоў,
Коле варожая поўсць штыкоў...
А навокал — кулацкі свіст,—
Ты не зявай, малады чэкіст!

Пільна глядзі, каб варожы цень
Не прытуліўся ля нашых сцен,
Каб пад вялікай камуны мур
Не працягнулі бікфордаў шнур,
Каб не спалілі апошні склад —
У рэвалюцыі ворагаў шмат!

Хмурны сядзіць старшыня чэка,
Сумны нясуць правады адказ...
Нервы напружаны, кожны крок,
Як ашалелае кулі скок.
Трэцяя ноч за акном стаіць,
Трэцюю ноч старшыня не спіць.

Гэтая ноч,
Як варожы стан,
Ў небе прастрэленым сотні ран.
Там, за ярамі, дзе снежны прост,
Спушчан чарговы цягнік пад адкос,
Дрот перарэзан, і заўтра фронт
Будзе без хлеба і без патрон.

Ліпне да шыбін густая муць.
Хіба ты можаш, чэкіст, заснуць?
Мерзне на вуліцы сумны слуп,
Крокі падлічвае хрыплы хруп.
Побач, наводшыбе, шумны дом —
Чонаўскі штаб, былы губком.

Тут на сталах пачародна спяць,
Тут не шкадуюць жыццё аддаць,
Каб рэвалюцыі заўжды жыць,
Каб не маглі яе ўноч задушыць.
Кожны на почаку тут, а там...
З бандаю ходзіць ліхі атаман.

А па начах у іх поўсць дыбком,
Лютая банда, грай ваўкоў!
Кроў і пажар, і халодны дым,
Вецер заметвае ўсе сляды...
А за акном не сціхае дрот:
— Хлеба чакае галодны фронт!

Дзесяць, дванаццаць, шаснаццаць гадзін,
Хмурны сядзіць старшыня адзін.
Тут на стале яшчэ сотні спраў,
У кожнай варожы захован твар.
Тут на стале іх пярэсты збор
Прыме сягоння свой прыгавор:

Богін Даніла (мянушка Клін) —
З бандаю сувязь (сукін сын!),
Золак, Залуцкі (мянушка Ша) —
Галаварэзы банды Чыжа.
— Дваццаць чатыры гадзіны даць
І ад імя рэвалюцыі
расстраляць.

●

Вецер ходзіць,
Цені водзіць
З боку ў бок
Па канавах,
Па засыпаных заставах,
Па завулачках крывых,
Па дарожках снегавых.
Шы-ых, шы-ых!

Ты, вятрок, не хадзі,
Белы снег не мяці
На завулак крывы —
Там стаіць вартавы.

Ён кіруе свой пагляд
На харчовы на склад,
Каб варожы там цень
Не хадзіў каля сцен,
Каб ягоны дых
Папярэдзіў штых.

Ты, вятрук-вятрун,
Ой, благі вястун,
Ты пакінь шамрэць,
Покуль стане днець,
Бо ў такую ноч —
Трэба дзесяць воч,
Бо на гэткі ўзвей
Трэба шмат людзей.

Але вецер не сціхае,
Цені водзіць, завывае,
Сыпле снегам каля хат,
Ён бандытам сёння брат.
Па завулках між дамоў
Ён хавае ніткі змоў,
Ён заметвае сляды
Ад варожае хады.

Каля брамы разгавор:
— Склад насупраць, цераз двор.
Вецер нам спрыяе ў час,
Склад паліце, каб не згас,

Пачынайце роўна ў тры,
Хай заклятае гарыць.

Плача ў маці хворы сын,
Ён застаўся ёй адзін:
— Бацька трэці дзень не йдзе,
Бацька там, дзе снег мяце,
Ён на варту стаў начы,
Ты маўчы, сынок, маўчы.

За сумётам снегавым
Схамянуўся вартавы,
Ў цемрадзь ночы бліснуў штых —
За сумётам нечы дых...
Вартавы напружыў зрок,
Палец ледзь крануў курок.

Нехта ўпаў... Мятнуўся цень.
Там другі прыліп да сцен.
Ветравей, трывога (стрэл)...
— Памажы... таварыш... (стрэл)...
Потым цёмна... Ціха зноў...
Вартавы не йшоў дамоў.

●

Вуліца — спрутам. На самы стык
Заледзянелы ляціць бранявік.
Вуліца... снег... паставыя... дом —

Чонаўскі штаб, былы губком.
Тут на сталах пачародна спяць,
Тут не шкадуюць жыццё аддаць,
Тут непагасны гарыць агонь,—
І бранявік супыніў разгон.

Вылез баец, ён зусім абмёрз,
Але сказаў:
— У пару давёз...
Нельга, таварышы, больш чакаць:
Вісне над намі пагрозы рука.
Сёння пасунецца зноўку фронт,
Ступіць бліжэй генеральскі бот.
Бандамі зноў загудуць кулакі,
Чуеце, белыя выюць ваўкі?!
Горад сягоння трымае штык.
Стаўце пікеты на кожны стык.
Будзьце гатовы! Чыгунны мост...
Чону даручаны аванпост!

●

Цёмнач. Холад. Лес і ціш.
З бандай ходзіць бацька Чыж.

Пень, калода, сцежка ўбок,
Бацька лічыць кожны крок,
Бацька лічыць колькі вёрст,
Дзе гудзе чыгунны мост...

Воўчы троп, куды ні стань,
Дрэва кожнае, як здань.
Воўчы троп і воўчы спрыт —
За бандытам йдзе бандыт.

Кінуў хату, гайда ў лес —
Гамані, гуляй, абрэз!
Што ім кроў і гром вайны?
Ў цемрадзь ночы йдуць яны.

. . . . . . . . . . . . .

Два бандыты (рэдкі спрыт)
Цягнуць скрыню (дынаміт).
Сёння ім работы шмат —
Атаманам дан загад:

— Мост, што выгнуўся дугой
Над ускрайкам берагоў,
Абарваць, як нітку, каб
Зруйнаваць чырвоны штаб.

Атаман да цемры звык,
Але ў цемры — бальшавік...
Сполах хрупнуў, быццам лёд.
Стрэл і...
Шротам кулямёт.

Прад вачыма вырас мост...
Людзі... Снегу белы прост...

Пацягнула бегчы... не!
Бальшавік не абміне.

●

...Слава табе, гераічны год,
Тысяча дзевяцьсот дваццаты год!
Ночы бяссонныя, хлеба пай,
Зорка на шапцы, у сэрцы май!
Слава табе, баявы атрад,
Першай у свеце камуны салдат.
Ты на штыку гэту славу нёс
Цераз завалы бязмежных вёрст.
Цяжка было у такі прасцяг
Несці прастрэлены кулямі сцяг.
Але ты быў бальшавік і салдат —
Слава табе, баявы атрад!

. . . . . . . . . . . . .

Вецер пяе і хістае дрот.
Сёння працуе ізноў завод.
Стукае молат, жалеза крык:
— Фронту патрэбен бронецягнік!
Тысяча рук узнялося:
— Даць!
Сілы напружваць, рук не складаць.

І напаўняецца громам цэх,
Іскрамі сыпле кавальскі мех.

Пульс рэвалюцыі зноў гудзе!
І нараджаецца новы дзень,
Ў ім наша сіла і наша кроў.

Чонаўцы з песняй ідуць на фронт.

1931

## Чатыры мільёны

**(Да прысуду над «Грамадой»)**

Вецер, вецер
Над струджаным краем
Прыпыніцца не ведае дзе:
Там, дзе польская панская зграя,
Чатыры мільёны на судзе.

Там, дзе «ожэл» крывавы, паны,
Там, дзё сённячы суд велічэзны...
Гучна, голасна звоняць званы,
Рэха коціцца з клетак жалезных.

Панскі суд!..
Пад люты бізун
Падыходзь, занядбаны народзе...
Пан абшарнік,
Пан войт,
Пан Ісус
Сведкі дум тваіх,
Сведкі паводзін.

. . . . . . . . . . . . . .

Крэсліць боль,
На плячах пісягі,
У крыві мазалі на далонях...
Гэту кроў будуць сведчыць сцягі,
Гэты боль будзе помстай шалёнай.

Ўстань, закутая моц навальніц!
Па асаднай зямлі,
Па выгарах
Хай гавораць мячамі зарніц,
Бліскавіцамі поўныя хмары.

1931

# Вольны ліст зняволенаму брату

> «Дарагія таварышы! Учора толькі скончылася наша барацьба не на жыццё, а на смерць з фашысцка-астрожнай адміністрацыяй. Скончылася наша сямідзённая галадоўка. Яшчэ сілы слабыя, але пішу, паведамляю аб цяперашнім нашым становішчы.
>
> Палітвязень Д.»

Чорт пабяры вас,
Буржуйскае кодла!
Чорная зграя цыліндраў і шпор.

Катуйце,
Спявайце фашысцкія модлы,
Каб уціхамірыўся рэвалюцыйны віхор.

Шомпалам, крыжам —
На славу айчыне!
На славу, прадажны фашысцкі танок...
У гэтай айчыны —
Турма прад вачыма,
У гэтай айчыны —
Паўстанцкі зарок!

Яе не суцішаць ні крыж, ні астрогі,
Узброеныя па вушы дазорцы і шпікі.

Вогнішча рэвалюцыі
Распальваюць стогны,
І гэтага вогнішча
Не стрымаюць штыкі!

●

Я не ведаю, як цябе клічуць,
Брат мой далёкі,
Зняволены брат!
Я чую, як сэрца тваё
Удары лічыць,
Як цісне і душыць
Глухі каземат.

Ты хочаш падняцца,
І здраджваюць сілы...
Ты хочаш ім плюнуць
Крывёю у твар...
І вусны здранцвелі,
І рукі скруцілі,
І хмуры за сценкаю
Ходзіць жандар.

Ён добра нясе
Сваю службу сабачую.
Нюх — дасканалы,
Вус — да грудзей...
Пудалу такому
Далі ў прыдачу

Медаль за паслугі,
За здзекі з людзей.

Я знаю, нялёгка
Ў засценку, мой браце.
Твой ліст нечакана і я прачытаў.
Ты пішаш:
— Цесна рэвалюцыі ў казэмаце,
Сіл не хапае, каб выпрастаць стан.

Ты пішаш,
На сёмыя суткі не еўшы:
— Таварыш, змаганне — яно будзе жыць.
З-пад шыбеніц Львова,
З каменных прарэшын
Помста ўзнімаецца,
Пошчакам дрыжыць!

Ты верыш у моц
Наплываючай хвалі,
Ты чуеш, як будуем мы
Рэспубліку сваю.
І ты запяваеш:
...праклящцем катаваны...
І сцены падтрымліваюць
Песню тваю.

Бо чуецца над Вільняй,
Гучыць па-над Луцкам

Замучаных цяжкай няволяй хада,
Бо сочыцца кроў
На зямлі навагрудскай,
Бо крык забаронен штыкамі салдат.

. . . . . . . . . . . . . . .

Над Мінскам сягоннячы
Дыхае травень,
На вуліцу ідуць мае таварышы.
У іхніх вачах
Веснавая рухавасць,
Сусветная рэвалюцыя
І шчырасць душы.

Брат мой далёкі,
Замучаны вязень!
Ад сэрца ідзе гэтай песні радно.
Мы славім герояў паўстаўшага класа,
Мы помнім адданых ёй
Лепшых сыноў!

1931

●

Яшчэ і не прызнаны ён,
Нідзе, нікім не змушчаны,
Расце мой верш з палянамі,
З дубровамі ды пушчамі.

Расце мой верш, гартуецца,
Гавораць словы шчырасцю,
Бліжэй да сэрца туляцца,
Каб перад вамі вырасці

Вязанкаю імкнёных дум,
Паэмаю ці доказам
Пра найвялікшых дзей хаду
І нашы дні высокія.

1931

## У добры час

(Урывак)

Паэтам-экзотыкам.

...І насыпалася ж гэтай молі.
Вецер з поўначы. Зіма за шклом...
Едзьце, любыя, сабе паволі
Хоць у Індыю, хоць на Цэйлон.

Я экзотыкай захоплен мала,
Мне б кажух на зіму як прыдбаць.
Вецер спрытлівы заводзіць шалы,
Пачынае праз акно дзімаць.

Ён ад поўначы бярэ кірунак,
Лезе, злыбеднік, аж на страху.
Кажуць, дзіўны быў у нас стасунак
І такія ж крокі на шляху.

Я кажу цяпер на цвёрдай глебе
І, папраўдзе,— не хаваю слоў:
Едзьце, любыя, куды вам трэба,—
Хоць пад тропікі, хоць на Цэйлон.

Мы цяпер ужо не зоры ловім,
Волак колішні музеям здан.
Мы над горнамі гартуем словы,
Мы бяром іх на пад'ёмны кран...

. . . . . . . . . . . . . .

Месяц выбліснуў на зорнай грэблі,
Ў сінь кіруецца яго баркас.
Едзьце, любыя, куды вам трэба,
Вецер з поўначы, у добры час!

1931

## Б'ецца ў шыбіны вецер

Б'ецца ў шыбіны вецер паўночным крылом,
Б'ецца вецер халодны і сцюжны;
Недзе песню віюгі пяюць за сялом,
Недзе скача мяцеліца,
Кружыць...

Можна ў хаце сядзець, ды такою ж парой
Пройдзе хто над дарогамі тымі?..
Свішча вецер халодны над хвояй старой,
Свішча вецер у снежаньскім дыме.

Сядзем, дружа! Згадаем пяройдзены
шлях,
Дні юнацтва, пару маладосці,
Як да болю закутая ў песні душа
Гэтак шчыра спявала і проста.

Як цярпелі ў той час, як жылося тады,
Як бацькі нашы гнулі галовы,—

Ты раскажаш сягоннячы нам, маладым,
Як паданне ў нязведаных словах.

Хай успомніцца гэтая чорная слань,
Як жылі, як згаралі дачасна,
Каб ярчэйшай цяпер наша радасць была —
Муляроў найвялікшага шчасця.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Неяк ладна рыпіць пад нагамі мароз...
Слаўна санкі плывуць па дарозе.
І паэт, ён умее змагацца за лёс,
Быць на крэйсеры простым матросам.

Ён умее змагацца, на варце стаяць,
Будаваць, бараніць ён умее.
Зложыць песню, і гэтую песню спяваць
Будуць з намі вятры і завеі!

І калі абарвуцца падчас берагі,
Кожны зменіць пяро на вінтоўку,
Стане той за гармату, на крэйсер — другі,
Песню, песню спяём перад бойкай.

1931

# Здань блукае па Еўропе

Англійскія гарнякі абвясцілі забастоўку. Ажыўленасць прамысловых цэнтраў скончылася.

ТАСС

Вецер, вецер,
Плач, як чалавек,
Вокліч нясі цераз сіні Ла-Манш!
Прагорклы туман не спадае з павек,
Ён грызе нашы вочы
І зрок губіць наш.

Вялікая Брытанія,
Бацькоў нашых айчына!
Мы капаем табе вугаль,
Тчом найлепшае сукно,
А дзеці нашы плачуць
Галоднымі вачыма,
А жонкі не скідаюць
Падранае радно.

Не затым мы табе
Працавалі на шахтах,
На дымных заводах,

На верфях тваіх,
Каб за мора плылі фабрыкантаў яхты,
А мы задарма працавалі на іх.

Вялізная Брытанія,
Бацькоў нашых айчына,
Даволі ты выпіла нашай крыві!
Мы спынім драпежныя твае машыны,
Мы прымусім цябе слухаць
Голас жывы!

Мы больш не палезем
У шахты па вугаль,
Не пойдзем на фабрыкі
Ткаць табе сукно.
Вялікая Брытанія,
Мы больш табе не слугі,
Мы не хочам пакутаваць
Гэтак ізноў.

. . . . . . . . . . .

Няхай фабрыканты
І тыя, што з імі
У крамцы парламента — ў дудку адну,
Упэўняцца сваімі ўласнымі вачыма,
Што гэта падобна
На класавую вайну.

1932

## Джон сягоння бастуе...

Вецер, вецер,
Плач, як чалавек,
Вокліч нясі цераз сіні Ла-Манш:
Хай пачуюць за морам,
Як Джон тут жыве,
Як даводзіцца Джону вугаль ламаць.

Хай пачуюць,
Што Джон
Не палез за вуглём:
— Д'ябал хай капаецца там, пад зямлёй!
Джон сягоння бастуе,
Бастуе Джон,
Бастуе сто тысяч такіх, як ён.

. . . . . . . . . . . .

Над баракамі ноч,
Як заслона чорная.
Праз акенцы агеньчыкі зор відаць...

Пуста ў Джонавай хаце
Яшчэ ад учорага,
Але ведае Джон — трэба моцна стаяць!

Хай зарубяць яны:
Будзе Джон баставаць!
Пакуль сіла ў Джона, змагаецца ён.
Шахтаўласнік заве на яго працаваць,
Але Джон не машына —
Стамляецца Джон!

Джон шаснаццаць гадоў
Дзень у дзень пад зямлёй.
Да дзесятага поту пакутаваў Джон.
У Джона куча дзяцей,
Думак, клопатаў рой,
Хто ж яму дапаможа, як паваліцца ён?

Але Джон хоча жыць,
Хоча Джон працаваць.
Гэта ведае ўласнік, гэта ведае Джон.
Але будзе змагацца,
Будзе Джон баставаць,
Як бастуе сто тысяч такіх, як і ён!

1932

## Расказ рабочай брыгады

Па адхонах, па узгор'ях паравоз,
За сабою пакідае гром калёс.

. . . . . . . . . . . . .

Мы сядзелі, мы курылі ў гэты час,
Мы спрачаліся, як кожны можа з нас,
Як пачаць сваю работу трэба нам,
Як адпор дамо зацятым кулакам,
Што за словамі не лезуць у кішэнь,
Што на словах за Саветы ноч і дзень,
А патайна ноччу цёмнай, быццам склеп,
Рыюць ямы і хаваюць лішні хлеб.
Як мы вызнаем увесь гэты падман,
Як мы выведзем раён на першы план!

●

У накуранай канторы пры агні
Мы сядзелі падлічалі працадні.

— От цяпер на мове лічбаў — уважай! —
Перад намі ўвесь калгасны ураджай,
Перад намі ўсёй работы разварот,
Што зароблена і зроблена за год.
— От цяпер мы добра знаем сельсавет,
Бачым кожнага калгасніка як след.
Хто сумленна, хто аддана працаваў,
А хто цэлы год на печы змарнаваў.
Хто рабіў, а хто арэхі калаціў,
Хто з кулачнікамі поначы хадзіў...
Мы сядзелі за работай, трое нас,
Мы падводзілі калгасны наш баланс!

●

А тым часам па раёне кулакі:
— Мы такія, мы сякія, бednякі...—
Падтуліліся, прыціхлі — хоць куды —
Ніжай траўкі, цішай ветру і вады:
— І зямлі у нас цяперака трацяк,
І зусім цяпер няма у нас жыцця.
— Каб было гэта у даўні час (ахвоч!),
Мы здалі б дзяржаве хлеба колькі хоч.
— А цяпер, бачно малому,— чорны год!..
На пшаніцу і на грэчку недарод.
І калі знікалі «госці» са двара,
«Бедны» гэты бег да кума, да Пятра:
— Так і возьмуць у мяне яны — ражна!
Не давай, Пятро, галоце ні зярна!

●

Быў мароз, і па дратах каціўся звон,
Чорнай дошкаю ляжаў увесь раён...
Цішыня, спакой такі, куды ні глянь,
Там не выканалі, тут сарвалі план.
Там насенне разбазарылі нашчэнт.
Пра вясну тут і не думалі яшчэ,
Спалі ў шапку, спалі ўсюды, дзе маглі,
Пад кулацкую гутанку — ой, ля-лі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Быў мароз, і вецер сцежкамі гайсаў.
І тады з нас кожны сам сабе сказаў:
— Камуністы, камсамольцы, у паход!
Мы з прарывам не дазволім скончыць год!

●

...Хутарамі, па дарогах сытых глеб
Мы хадзілі, даставалі з ямаў хлеб.
І мы вызналі кулацкі ўвесь падман!
І мы вывелі раён на першы план!

1933

## Пад высокім сонцам

Па квяцістай зямлі
Я дарогай ступаю,
Лёгкі ветрык за мною бяжыць
Па траве.
Я іду
І вясёлую песню спяваю
Пра вясну, і дзяўчыну,
І стан на жніве.

Сонцам поўніцца сэрца маё
І спяванка,
І вятры нізавыя
Зямлі маладой,
Што расціла мяне
Непагодай і ранкам,
Што паіла мяне
Жыватворчай вадой.

Я прыгадваю гэта
І так запяваю,

Як пяюць касары
Над высокай травой,
Што красуе мой край
І сярпамі іграе
Над шчаслівай зямлёй
Залатое жніво.

1935

## Слова другу

(Урывак)

...У цябе на роздум сёння
Ёсць хвіліна цішыні.
Ты адкрыў акно. І ўспомніў
Батарэйныя агні.

Ты згадаў над Віслай хатку,
Вербы ніцыя і плот,
Дзе загінуў да астатку
Баявы наш слаўны ўзвод.

Помніш ты, як біўся марак
Над зямлёй у пыл і прах...
Кожны пень і кожны ўзгорак
Быў як вораг наш, як брат.

Мы ляжалі трое сутак
Пад віхурай і агнём.
Мы не спалі трое сутак —
Ноч здавалася нам днём.

...І запелі нашы трубы,
Нашы сэрцы — помсты гімн.
І ўзняліся шаблі ў свісце
Пад штандарам баявым.

Праз яры, балоты, нетры
Вірам лютым у прасцяг
Неслі коні нас, як ветры,
Па варожых па касцях.

. . . . . . . . . . . .

Гэта ўсё я ўспомніў, дружа,
Каб не блекнуў славы сцяг,
Каб цвіла яна, як ружа,
Наша бацькаўшчына, дружа,
Без якой — няма жыцця!

1935

## Вайна — вайне

...Толькі высахлі мацерак слёзы,
І трупы
Хрупкім жвірам прысыпалі
Пад дзірваны,—
Загрымелі гарматныя збройніцы Крупа,
Заігралі сусветныя
Майстры вайны.

Зноў яна,
Гэта чорная здань,
Па-над светам
У масцы міру нячутныя ніці снуе,
Зноў фашысцкія іклы
Наточаны супраць Саветаў
І рыхтуюць употайкі
Планы свае.

Досыць!
Годзе, драпежнікі, выць па засценках

Пра закуплены вамі
Нам загадзя «рай»,
Свет напоўнены людскімі
Стогнамі й енкамі,
Палам помсты крывавай
Шугае праз край.

Міру ў свеце няма!
Чуеш — крокі калоній,
Чуеш — грукат гармат на Усходняй зямлі?!
Рушаць
Тысячы белых і чорных —
Мільёны! —
Развінаючы класавых боек агні.

Досыць войнаў за рынкі!
Ўставай, волат працы!
Чорны, белы і жоўты — адзінай сцяной
Пад штандары кампартыі!
Рушце змагацца
У астатні,
Рашучы
Класавы бой!

1935

## Нявеста

За акном у нашай Насты
Расшумеўся месяц май.
Залаты авёс купчасты
Залівае небакрай.

А жыты, ячмень, і травы —
Мора сіняга разліў.
І налева, і направа,
І навокала палі...

— Хто найлепей жне за Насту?
— У каго рука спрытней?
— Хто званчэй пяе за Насту?
— Што брывей яе цямней?

Каля Насцінае хаты
Май шуміць ва ўсе канцы.
Да яе ідуць у сваты,
Пра яе пяюць хлапцы:

— Пад высокім небам зоркі,
Вецер лёг у травах спаць.
Ці не выйдзеш на вячоркі,
Наша радасць, пагуляць?

Ці не станеш сярод нас ты
За прыпеўкамі ў танок?
Ой ты, Наста, наша Наста —
Залацісты галасок!

Ля варот пяюць гармоні,
Рассыпаюцца званкі.
Тут, вядома, едуць коні
Вараныя нацянькі.

Пад'язджаюць да нявесты,
Сваты кланяюцца ўсім.
Іх за стол вядуць. І месца
За сталом адводзяць ім.

І пайшла гаворка ў сіні
Перазвон вячэрніх зор
Пра калгасныя навіны,
Пра нябачаны прастор.

А нявеста у палоне
Паміж радасных гасцей,
Як вясна, як май зялёны,
Толькі лепш і весялей.

— Як жывём, таварыш Наста?
— За здароўе ваша, Наста!

Прывітаюць добрым словам,
Зычаць радасці. І зноў
Паднімаюць кубак новы
За здароўе маладой.

Песень звон вакол. А насцеж,
Там, дзе зорны выбіт шлях,
Залатым шумуе шчасцем
Неабдымная зямля.

1935

## Бой пад Арэхавам

**(З баявой гісторыі Аб'яднанай беларускай ваеннай школы)**

Грукай, славы нашай веліч,
Днямі стромкімі,
Вейце, сцягі баявыя,
Над Крамлём!
Здабылі мы вас крывёй гарачай,
Бойкамі,
Смерцю выстаялі нашай
І жыццём!

Мы праносілі вас мужна
Пылкай Таўрыяй,
Цераз Дон шырокі неслі,
Праз Кубань.
Па тайзе ішлі з братвой
Праз кулі ярыя,
Цераз камень, холад, жар
І цераз твань!

. . . . . . . . . . .

Мы ішлі тады
І па дарогах ехалі,
Напалам дзялілі хлеб,
Бяду і мор.
Пядку кожную зямлі
Мы пад Арэхавам
Адбівалі баявым штыком
Ва ўпор!

Помняць ночы тыя,
Чорныя і дзікія,
Як ішлі мы стэпам
У паход.
Будуць помніць нават
Камні без'языкія
Тыя ночы ў дзевяцьсот дваццаты год.

Стрэляны ішоў ён,
Тройчы кляты,
Па шляхах, б'ючы нас
Сцюжай, сыпняком...
Праз агонь, ваду,
Праз чорны грай Антанты
Вёў брыгаду нашу ваенком.

Пеклам ноч была
Напагатоўцы:
Ні зямлі, ні неба — д'яблава нара!..
Адзінаццаць раз

На нас ішлі драздоўцы
І адыходзілі назад —
Паўзлі ад ран.

Ў чадзе пораху
І залпах калаціўся
Невялічкі гарадок Арэхаў той.
Зоры падалі,
І мёртвы мкнуўся йсці ўсё,
І паранены крычаў у цемру: стой!

Так казаў
І галавой каціўся ніцма,
Цераз труп яго ступалі,
Зноў ішлі...
О, такая ноч нікому не прысніцца
На вялікай,
Любай нам зямлі.

Там загінулі,
Расстрэляны ля плота,
Шэсць таварышаў найлепшых баявых:
Ліўшыц, Тэненен,
Арловіч-Воўк, Балотаў,
Тулянкоў і Кільч —
Шэсць дужых, маладых.

Леглі ў рад яны
Пад хмарай пораху...

Шэсць таварышаў
Яшчэ жывых —
У роў...
І сачылася з іх ран
Праклянццем ворагу
Чалавечая, жывая наша кроў.

Але песня будзе жыць
Мільёнаў воляю,
Будзе весці нас у бой
І цераз бой,
Каб нікому не аддаць
Ніколі болей
Ні кавалачка нідзе зямлі такой!

Грукай, славы нашай веліч,
Днямі стромкімі!
Вейце, сцягі баявыя,
Над Крамлём!
Здабылі мы вас крывёй гарачай,
Бойкамі,
Смерцю выстаялі нашай
І жыццём.

1935

## Шчасце

Вось яно якое, шчасце!
Радуйся, Пятроўна!
Здабылі мы гэта шчасце
У баях няроўных.

Што вышэй яго на свеце?
Што па сіле роўна?
Майскі над садамі вецер,
Радуйся, Пятроўна!

Пяцера сыноў кудравых,
Сокалаў бясстрашных,
Узрасціла ты на славу
Бацькаўшчыне нашай.

За гарамі, за хрыбтамі,
У прасторах морскіх
Першы — слаўным капітанам
Водзіць мінаноскі.

А другі — крыляе сокал,
Сокал срэбнакрылы.
Ён між хмар нясе высока
Славу эскадрылляў.

Трэці ходзіць па краіне
З компасам і картай,
Нетры гор, марэй глыбіні
Пакарае ўпарта.

Сын чацвёрты ў знатным стане —
Уладар пустыняў.
Пра яго шумяць жытамі
Нівы залатыя.

Пяты стаў каля граніцы
Між начы панурай,
Дзе вятрам чужым не спіцца
Ў трысніках Амура.

Кожны — слава, кожны — гонар,
Кожны — сын радзімы,
Кожны маці шле паклоны
Шчаснаю гадзінай.

Слынь пра іх ідзе далёка
На хвалу, на радасць...
І глядзіць старая вокал
Ветлівым пaглядам.

І відно ёй — цветам ясным,
Залатым налівам
Зіхаціць прастор калгасны
І шуміць шчасліва.

Вось яно якое, шчасце!
Радуйся, Пятроўна!
Здабылі мы гэта шчасце
У баях няроўных.

1936

ЗМЕСТ

**Дарожны Сяргей.**

Выбраныя вершы. Мінск, «Беларусь», 1966.

112 с. Бел2

На белорусском языке. Сергей Дорожный (Сергей Михайлович Середа). Избранные стихи.

Рэдактар А. Марціновіч. Мастак А. Зайцаў. Мастацкі рэдактар М. Шырокаў. Тэхнічны рэдактар Г. Калечыц. Карэктар Г. Славінская.

АТ 08581. Здадзена ў набор 2/XII 1965 г. Падп. да друку 28/III 1966 г. Тыраж 3000 экз. Фармат $60 \times 90^1/_{32}$. Папера друкарская № 1. Фіз. друк. арк. 3,5. Уч.-выд. арк. 2,8. Зак. 1249. Цана 32 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Камітэта па друку пры Савеце Міністраў Беларускай ССР, Мінск, Чырвоная, 23.